*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 21 (656) 2 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

## Наталля Арсеннева вярнулася ў Вільню да 15-годдзя ТБК ў Літве



*Алесь Шатэрнік, Хведар Нюнька і Пятро Краўчанка перад дошкай Наталлі Арсенневай.*

22 траўня беларусы Літвы святкавалі 15-годдзе Таварыства беларускай культуры ў Літве. Да гэтай даты было прымеркаванае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар вялікай беларускай паэтэсы Наталлі Арсенневай работы скульптара Алеся Шатэрніка на будынку былой Беларускай гімназіі ў Базыльянскіх мурах. Ініцыятыва ўстаноўкі дошкі належыць ТБМ імя Ф. Скарыны. Асноўнымі фундатарамі выступілі Пятро Краўчанка і клуб "Спадчына".



*Уладзімір Арлоў на Лукішках, на месцы, дзе быў пакараны смерцю Кастусь Каліноўскі.*

На імпрэзу з'ехаліся беларусы з Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Чэхіі, Калінінградскай вобласці Расіі. Ад ТБМ, у якога самыя цесныя стасункі з ТБК у Літве, на свяце прысутнічаў старшыня Алег Трусаў.

Акрамя адкрыцця дошкі было праведзена ўскладанне кветак да памятнага крыжа на месцы пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага на Лукішках, а таксама шэраг іншых афіцыйных і не вельмі мерапрыемстваў.

Дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас, стоячы перад пустым зараз будынкам былой беларускай гімназіі выказаўся, што ён вельмі добра пасуе да пераезду сюды ліэя. Як яно будзе з ліцэем пакуль не вядома, а Наталля Арсеннева ўжо ў Вільні.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## З ліцэя ў еўрапейскія універсітэты

30 траўня ў Менску ў Доме літаратара прайшла выпускная вечарына незарэгістраванага Беларускага гуманітарнага ліцэя. Нагадаем, што год таму ўлады закрылі Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, які размяшчаўся ў доме № 21 па вуліцы Кірава. І хаця ўсе спробы зарэгістраваць недзяржаўны Беларускі гуманітарны ліцэй не далі плёну, настаўнікі не кінулі сваіх выхаванцаў, а давялі іх да выпуску.

Акрамя ліцэістаў, іх бацькоў і выкладчыкаў на вечарыну прыйшлі паважныя госці: паэты Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, пісьменнік Уладзімір Арлоў, мастак Аляксей Марачкін, амбасадары ЗША і Францыі, прадстаўнікі амбасадаў Польшчы і Славакіі.

Выпускнікам былі ўручаны ганаровыя дыпломы. Абсалютная большасць выпускнікоў ліцэя зможа прадоўжыць навучанне ва ўніверсітэтах Германіі, Чэхіі і Літвы, пра што ўжо ёсць адмысловае пагадненне.

Падчас вечарыны былі ўручаны падзякі арганізацыям і асобам, якія найбольш спрычыніліся да таго, каб ліцэй не паддаўся гвалту з боку дзяржавы і змог прадоўжыць працу. Першым такую падзяку атрымаў старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў. Ні для кога не сакрэт, што ТБМ самым цесным чынам спрычынілася да арганізацыі дзейнасці пазбаўленага ўсіх правоў і маёмасці ліцэя, тым больш, што ўсе навучэнцы - сябры ТБМ.

У адказ сябар рады ТБМ пісьменнік Уладзімір Арлоў падарыў кожнаму выпускніку па дзве свае кнігі: "Адкуль наш род" і "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі".

Пасля ўрачыстай часткі быў паказаны фільм пра ліцэй, зняты польскімі тэлежурналістамі.

Што ж, даргія выпускнікі! У добры час, у вялікі свет! На славу і гонар Беларусі.

*Яраслаў Грынкевіч.*

**ПИСЬМО НАЦИОНАЛЬНОГО БАНКА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
18 марта 2004 г. № 03-13/36

## О ПРИМЕНЕНИИ БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА

В адрес Национального банка Республики Беларусь поступают обращения общественного объединения "Таварыства беларускай мовы імя Францішака Скарыны" по вопросу возможности оформления выдачи банковской пластиковой карточки на белорусском языке.

В соответствии с Конституцией Республики Беларусь (ст. 17), Законом Республики Беларусь "О языках в Республике Беларусь" (ст. 2) и решением Конституционного Суда Республики Беларусь от 05.12.2003 № 05-04/550 "Об использовании белорусского и русского языков в сфере обслуживания, оборота банковских пластиковых карточек и в системе государственного страхования" государственными языками в Республике Беларусь являются белорусский и русский языки и Республика Беларусь обеспечивает всесторонне их развитие и функционирование во всех сферах общественной жизни.

**Учитывая вышеизложенное, просим обеспечить заполнение договора на открытие карт-счета и заявления-анкеты на выдачу карточки по желанию клиента, как на русском, так и на белорусском языке.**

Заместитель Председателя Правления **В. Я. СЕНЬКО.**



*Уладзімір Колас, Алег Трусаў і Хведар Нюнька на вуліцы Вільні.*


№ 21 (656) 2 ЧЭРВЕНЯ 2004 г. Наша Слова

Да 15-годдзя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Ніл Гілевіч

# Ад ідэі да заснавання

***(Урывак з неапублікаванай мемуарнай кнігі "Між роспаччу і надзеяй")***

Даўно не чытаў гэтак уважліва партыйныя дакументы, як рэзалюцыю XIX партканферэнцыі "Аб міжнацыянальных стасунках", і даўно не зведваў такога горкага расчаравання. Зноў тая ж самая прыгожая, гучная рыторыка і тая ж самая праімперская палітыка, закамуфляваная нібыта дэмакратычнымі і справядлівымі фармуліроўкамі. Чытаю (параграф 4): *"Праяўляць больш клопату аб актыўным функцыянаванні нацыянальных моў у розных сферах дзяржаўнага, грамадскага і культурнага жыцця. Заахвочваць вывучэнне мовы народа, імем якога названа рэспубліка, грамадзянамі іншых нацыянальнасцяў, якія пражываюць на яе тэрыторыі... Усё гэта не павінна проціпастаўляцца дэмакратычным прынцыпам свабоднага выбару мовы навучання"*. Вось і ўсё, чаго я дачакаўся ад канферэнцыі, у якой так хацеў паўдзельнічаць: "праяўляць больш клопату..." Ды сотні разоў чуў я гэтае настаўленне, але ж клопат чамусьці не праяўляўся. ***"Заахвочваць вывучэнне мовы народа..."*** І якім жа чынам? Дарослым — плаціць, а дзецям — даваць цукеркі? Уяўляю: у Венгрыі заахвочваюць вывучэнне венгерскай мовы, а ў Польшчы — польскай, а ў Балгарыі — балгарскай... Абсурд! ***"Зрабіць абавязковым вывучэнне мовы народа!"*** — вось што трэба было напісаць у Рэзалюцыі, панове. Зрабіце мову адзінай дзяржаўнай — і не трэба будзе ўся гэта слоўная эквілібрыстыка, усе гэтыя подлыя імпершавіністычныя хітрыкі. Бачыце: ***"Свабода выбару мовы навучання!"*** У дзяржаўных школах, тэхнікумах і ВНУ — свабода выбару? Дык а як рыхтаваць кадры для ўсіх галін нацыянальнай гаспадаркі, каб яны працавалі на мове народа, "імем якога названа рэспубліка"?

Але што шукаць істотныя змены ў моўнай палітыцы, калі ў першым абзацы Рэзалюцыі сказана: *"Стала рэальнасцю новая гістарычная супольнасць — савецкі народ"*. Ані ценю сумнення, што гэта ўжо рэальнасць. Ну, а калі адзін савецкі народ — то, напэўна, і адна мова. Можаце яшчэ трохі пагуляць і ў свае нацыянальныя гаворкі, і ў свае літаратуры, — можаце. Але, самі разумееце, у адной дзяржаве моўнага разнабою быць не павінна, ён замінае нармальнаму функцыянаванню дзяржаўнага арганізму, ён шкодзіць справе яднання народаў у гэту самую гістарычную супольнасць, і таму — мусіць быць пераадолены.

Праз тры гады — усяго праз тры гады! — размовы пра "новую гістарычную супольнасць" раптам страцяць сэнс і абарвуцца. На ўсёй велізарнай тэрыторыі былога СССР. Але — не ў Беларусі.

Нешта дзіўнае-незразумелае творыцца ў нашым літаратурна-грамадскім жыцці: супроць "ЛіМа", які найбольш паслядоўна і мужна змагаецца за беларускую мову, і супраць яго найбольш паслядоўных у гэтых адносінах аўтараў, выступаюць не толькі партыйна-савецкія рэтраграды, адкрытыя ворагі перабудовы, але і некаторыя гучна самазаяўленыя дэмакраты, змагары за палітычныя свободы, за грамадзянскія правы, за галоснасць. Прычым, менавіта апошнія выступаюць неяк асабліва подла і смярдзюча, кусаюць асабліва злосна. Да гонару "ЛіМа", ён увесь час дае такім "кусакам" водпаведзь. Змяшчае і мае артыкулы гэтага ж накірунку, у якіх я выкрываю небяспечныя для нацыянальнага адраджэння выпады і прывых і левых. У адным з іх, напрыклад, гаварылася: *"Вось чаму да ўсіх, каму сапраўды дорага перабудова, каму святая справа адраджэння нашай нацыянальнай культуры, а па сутнасці — адраджэння нацыі, да ўсіх, хто хоча, каб мы, беларусы, жылі і былі, я звяртаюся з заклікам: не ашукайцеся! Не паддайцеся дэмагогіі! Трэба помніць, што супроць перабудовы ў нацыянальным пытанні ідуць дзве сілы: першая — яўныя сталіністы, палітычныя рэакцыянеры; другая — псеўдаінтэрнацыяналісты, ілжэдэмакраты, фразёры-палітыканы, якія хочуць скарыстаць перабудову ў сваіх эгаістычных мэтах. Звярніце ўвагу, як гэтыя нібыта палярныя сілы змыкаюцца і абʼядноўваюцца між сабой на пагардзе і нянавісці да беларускай нацыянальнай культуры, да нашай мовы, як яны гуртуюцца ў страху перад ростам нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Яны ўсё табе даруюць: пусці з малатка фабрыку, вынішчы лес, загубі раку, прапі калгас, — усё даруюць гэтыя абʼяднаныя сілы, усё, але тваёй любові да роднай мовы, тваёй вернасці ёй — не даруюць табе ніколі! Але клопату пра ўздым беларускай нацыянальнай самасвядомасці — ніколі!*

*Чым хутчэй усе сумленныя беларусы гэта зразумеюць — тым лепш. Часу адпушчана не шмат. Гэта трэба зразумець сёння, заўтра, бо паслязаўтра можа быць позна. Не будзем наіўнымі. За наіўнасць мы ўжо не аднойчы дорага заплацілі"* ("ЛіМ" за 17.6.1988).

Наогул, "ЛіМ" — хачу гэта падкрэсліць яшчэ і яшчэ раз — з нумара ў нумар друкуе вострыя і моцныя артыкулы ў абарону беларускай мовы і ў падтрымку дэмакратычных перамен у грамадстве. Іншы раз я наўмысна ездзіў у рэдакцыю тыднёвіка, каб паціснуць руку рэдактару, майму сябру са студэнцкіх гадоў А. Вярцінскаму і яго намесніку М. Гілю. Якія ішлі тады ў "ЛіМе" выдатныя, магутныя матэрыялы! Праілюструю хаця б адным прыкладам — артыкулам У. А. Калесніка "Чалавек чалавеку, народ народу...": *"Беларускі бюракрат ад ідэалогіі, навукі і культуры часта сам па добрай волі чыніў "подзвіг" манкурта, адмаўляючыся ад роднай мовы і духоўных каштоўнасцяў народа..."* І далей: *"З пункту гледжання нацыянальных адносін у СССР гады застою фактычна былі гадамі маўклівага заціскання і руйнавання нацыянальных суверэнітэтаў рэспублік і краёў."* І яшчэ: *"Беларусь стала не проста чэмпіёнкай, але краінай цудаў па тэмпах бюракратычнай "інтэрнацыяналізацыі". Беларуская мова знікла з усіх публічных форумаў, была выціснута з гарадскіх школ, ВНУ"*. (ЛіМ, 18.XI.88).

Якую неацэнную службу саслужылі тады такія артыкулы (нататкі, інтэрвʼю) справе дэмакратызацыі грамадскага жыцця, справе абуджэння духу беларускасці! І, мабыць жа, невыпадкова, што наклад "ЛіМа" падняўся ў тыя гады да найвышэйшай рыскі за ўсю гісторыю выдання.

На працягу года-паўтара, па артыкулах і допісах у друку, па размовах пры сустрэчах пераканаўся, што ў масах беларускай інтэлігенцыі і не толькі інтэлігенцыі гарачых патрыётаў роднага слова больш, чым мне дагэтуль здавалася. Проста яны заззвычай нідзе асабліва не падкрэслівалі гэта — найперш таму, што было страшна, а яшчэ — і па нашай дурной беларускай сціпласці. Гэта іншыя могуць заяўляць, і вельмі голасна, пра сваю любоў да роднага слова, а нашым беларусам хваліцца і ганарыцца ну як бы няёмка, будзем любіць-кахаць сваю родненькую ціхенька, моўчкі. Трэба памагчы людзям пераадолець у душы гэты недарэчны сорам. Але як? Кожнаму ўадзіночку дасягнуць гэтага цяжэй, чым побач з іншымі, у грамадзе, у суполцы. Ісціна даўно вядомая: разам, гуртам дабівацца праўды і справядлівасці больш надзейна. Прыгадалася дзейнасць ТБШ (Таварыства беларускай школы) у былой Заходняй Беларусі: як мужна сябры гэтага згуртавання ратавалі слова ад паланізацыі! Успомніў, колькі мне расказваў пра гэта кіраўнік ТБШ Рыгор Раманавіч Шырма. Дык ці не паспрабаваць згуртавацца ў падобнае таварыства і нам тут, цяпер, — калі час пайшоў насустрач, калі ўсё больш набірае сілу перабудова?

Пакуль раздумваў над узніклай ідэяй, прыкідваў — што і як, лёс пайшоў, як гэта кажуць, насустрач. У газеце "Літ. Україна" (1988, № 29) прачытаў публікацыю, якая мяне страшэнна ўзрушыла: "Палажэнне аб Таварыстве шанавальнікаў украінскай мовы імя Т. Р. Шаўчэнкі". Брава! Дык на Украіне гэта ўжо робіцца! Ужо ствараецца такое Таварыства! Якая, помню, хваля зайздрасці накаціла на мяне! Дык а мы? А мы — што? Будзем маўчаць і сапці ў дзве дзіркі? Ну не! Будзем і мы ствараць сваё Таварыства. Ініцыятыву вазьму на сябе — спадзявацца на нашых "народных" і "Герояў працы" не прыходзіцца: сто гадоў будуць сядзець і не паварушацца. Зразумела, што гэту задуму трэба праводзіць праз ЦК — без згоды апошняга такую рэспубліканскую арганізацыю не створыш, нечага і кратацца (на Украіне, вычытаў, было гэтаксама). Карыстаючыся палажэннем аб Таварыстве імя Т. Р. Шаўчэнкі, прадумаў усе прынцыпы, на якіх будзе ствараццa Таварыства беларускай мовы, усе аргументы і доказы, чаму яно нам вельмі патрэбна, і папрасіўся на прыём да сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі В. Пячэннікава. "Якнебудзь пасля, пакуль не маю магчымасці", — адказаў Пячэннікаў. Адказ гэты паўтарыўся і тыдні праз два і пасля ізноў тыдні праз два. Пазней зразумеў прычыну: новы саратар, тэхнар па адукацыі, увогуле пабойваўся сустрэч з кіраўнікамі творчых саюзаў, а тым болей з тым, што зарэкамендаваў сябе "неуправляемым".

Чаканне маё зацягнулася, а тым часам у грамадскім жыцці Беларусі пайшлі падзеі надзвычайнай важнасці, якія захапілі і ўцягнулі ў свой вадаварот і мяне. Нарастанне адраджэнцкіх настрояў у асяроддзі дэмакратычнай інтэлігенцыі дайшло да такой мяжы, за якою размовы пераходзяць у арганізаваныя формы дзейнасці. Тады, вядома ж, з прыкладу суседзяў — літоўцаў, латышоў, украінцаў, і ўзнікла ідэя разгарнуць у рэспубліцы шырокі народны рух за нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне Беларусі. Ведаючы, што партыйныя ўлады ваяўніча настроены супраць і пастараюцца сарваць арганізацыйны момант вялікай грамадскай ініцыятывы, яе застрэльшчыкі (З. Пязняк, М. Ткачоў, М. Дубянецкі, М. Купава і інш.) абачліва рашылі скарыстаць для выйгрышу справы ўстаноўчы сход гісторыка-асветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі". На арганізацыю гэтага таварыства, заснавальнікамі якога былі Саюз пісьменнікаў, Саюз мастакоў, Саюз кінематаграфістаў і газета "ЛіМ", улады, хоць і з кіслай фізіяноміяй, дазвол далі. Сход "Мартыралога" быў назначаны на 19 кастрычніка ў офісе Саюза кінематаграфістаў у Чырвоным касцёле, які тады называўся Домам кіно. Я ўдзельнічаў у гэтым — сёння ўжо можна казаць пэўна — гістарычным сходзе і быў выбраны сябрам арганізацыйнага камітэта Народнага фронту. Гэта мела немалаважныя наступствы: як другая асоба ў кіраўніцтве СП я, не пытаючы згоды ў Максіма Танка, цалкам узяў на сябе адказнасць і даў дазвол на размяшчэнне ў Доме літаратара "офіса" новазаснаванай арганізацыі. Штаб аргкамітэта заняў 306 пакой ДЛ (кабінет літкансультанта А. Емельянава), а пасяджэнні праходзілі за авальным сталом у канферэнц-зале. Зразумела, што мая ўвага на пэўны час пераключылася з ТБМ на БНФ — трэба было адстойваць размяшчэнне яго офіса ў ДЛ ад грозных нападак райкама, гаркама і самога ЦК КПБ.

Мае клопаты пра стварэнне Таварыства беларускай мовы былі крыху прытарможаны яшчэ адной неспадзяванай акалічнасцю: пачалася падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет СССР, назначаных на 26 сакавіка 1989 года. Першыя дэмакратычныя, дакладней — напалову дэмакратычныя выбары ў краіне! Напалову — бо разам з выбарамі на мажарытарнай сістэме былі і "выбары" (па сутнасці назначэнні ў дэпутаты) ад грамадскіх арганізацый. Напрыклад, ад пісьменнікаў быў выбраны В. Быкаў, ад кампазітараў — І. Лучанок, ад прафсаюзаў — М. Захарэвіч, ад жаночых арганізацый рэспублікі — М. Карпенка і г. д. Восем устаноў Мінска вылучылі кандыдатам у дэпутаты мяне — па 563 тэрытарыяльнай выбарчай акрузе. Вельмі скора я пашкадаваў, што даў згоду на гэта вылучэнне. Ужо на першых сустрэчах з выбаршчыкамі зразумеў, што мяне чакае параза.







**Да 15-годдзя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

*Ніл Гілевіч*

# Ад ідэі да заснавання

***(Урывак з неапублікаванай мемуарнай кнігі “Між роспаччу і надзеяй”)***

Дэмакратычныя выбары — гэта змаганне, бязлітаснае і брутальнае, на што я зусім не здольны; для перамогі патрэбна добра падабраная баявая каманда, а ў мяне яна была бездапаможная і бяздзейная. Людзі з каманды майго спаборніка на кожным сходзе актыўнічалі надзвычайна і стараліся мяне прынізіць, нават абразіць. (“Сколько вам лет? Пятьдесят семь? И вам не стыдно лезть в Верховный Совет?” — крывіў міну адзін. “Запомните и скажите всем: этого бюрократа нельзя пускать в Верховный Совет страны, вон его надо гнать, вон!” — пырскаў слюной ужо ў іншай зале другі).

Галоўная ж прычына паразы — мой беларускі патрыятызм, беларускія пункты маёй выбарчай праграмы і мая беларуская мова на сустрэчах. У праграме значылася: *“І нарэшце — аб тым, што мяне як літаратара турбавала на працягу ўсяго майго свядомага жыцця і турбуе сёння. Гаворка — пра лёс беларускай мовы і культуры і пра брацтва народаў нашай краіны. Пераканаы, што з інтэрнацыянальнай пазіцыяй ніяк не ідзе ў разрэз клопат пра развіццё беларускай нацыянальнай культуры і павышэнне статусу беларускай мовы ў нашай рэспубліцы. (...) Я моцна веру ў глыбокі прыродны і выхаваны жыццём інтэрнацыяналізм беларусаў, ён у сэрцах у нас і ён будзе трымаць нас на вышыні, вартай імя і славы народа. Але клапаціцца пра лёс нашай цудоўнай мовы ўсім нам, хто жыве ў рэспубліцы, трэба. Гэта справа і сумлення, і гонару кожнага. Што датычыць маіх канкрэтных планаў у гэтай галіне, то я даўно жыву ідэяй стварыць у нас Таварыства беларускай мовы імя Скарыны і цяпер намераны актыўна ўзяцца за яе ажыццяўленне”.*

З прадвесня ўшчыльную заняўся стварэннем ТБМ, падрыхтоўкай да першага Устаноўчага з’езда Таварыства. Згода ЦК КПБ на гэта была дадзена лёгка — і не дзіва: аналагічнае Таварыства на Украіне ўжо было афіцыйна зарэгістравана і пачало дзейнічаць. Прыклад ёсць! — значыць і мы можам пайсці на такую саступку “нацыяналістам”. Ды і Крэмль, несумненна, не пярэчыў, там ужо ў такіх таварыствах небяспекі не бачылі. Што належала перш за ўсё зрабіць - самае неабходнае? Распрацаваць статут Таварыства і арганізаваць па ўсёй Беларусі, у гарадах і гарадскіх пасёлках, першасныя суполкі ТБМ, якія выберуць дэлегатаў на Устаноўчы з’езд. У працы над статутам актыўны ўдзел прымалі пісьменнікі і навукоўцы (Б. Сачанка, П. Садоўскі, Г. Цыхун, З. Санько і інш.). Па дзяржаўна-партыйнай завядзёнцы, дзеля паважнасці, арганізацыямі-заснавальнікамі ТБМ афіцыйна запісаны : Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Інстытут мовазнаўства АН, Інстытут літаратуры, Фонд культуры, Дзяржтэлерадыё, Таварыства “Радзіма”, Таварыства Дружбы і культурных сувязяў з заграніцай. У пачатку чэрвеня рэспубліканскія газеты апублікавалі праект Статута ТБМ. Найбольш цешылі тыя раздзелы і параграфы, у якіх гаварылася пра самыя важныя мэты і задачы Таварыства. **“3. ТБМ — масавая арганізацыя, якая першаступеннай задачай мае адраджэнне ў духоўным жыцці народа беларускай мовы і праз яе ўсёй нацыянальнай культуры...”**

**“6. ... Лічыць абавязкам праводзіць грунтоўную растлумачальную і прапагандысцкую работу, настойліва фарміраваць грамадскую думку з тым, каб усе жыхары рэспублікі зразумелі жыццёвую неабходнасць надання беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы БССР”.**

**“10. Адной са сваіх галоўных мэт таварыства лічыць адраджэнне ў Беларусі... нацыянальнай асветы і сістэмы нацыянальнай школы ўсіх тыпаў і забеспячэнне ўмоў для бесперапыннай адукацыі на беларускай мове”.**

**27 чэрвеня** адбыўся Устаноўчы з’езд Таварыства. (Цікавая дэталь: днём раней, 26-га, закончыўся Устаноўчы з’езд БНФ). У выбраную на з’ездзе Раду ТБМ увайшло 58 чалавек (па недагляду — цотны лік). Сярод іх такія відныя постаці нацыянальнай літаратуры і культуры, навукі і адукацыі, як Я. Брыль, Р. Гарэцкі, В. Шаранговіч, У. Калеснік, А. Мальдзіс, Ф. Янкоўскі, Г. Бураўкін, Б. Сачанка, А. Лойка, С. Законнікаў, Г. Цыхун, З. Санько, А. Падлужны, П. Садоўскі, А. Каўка, М. Купава, А. Клышка, А. Грыцкевіч, Л. Лыч, В. Маслюк, А. Белакоз, міністры А. Бутэвіч, Я. Вайтовіч, М. Дзямчук, сакратар сталічнага ГК КПБ П. Краўчанка. Дзякуючы апошняму ТБМ неўзабаве атрымала досыць прыстойнае памяшканне, у якім размяшчаецца да гэтага часу. У будучым, на наступных з’ездах (1991, 1993, 1995) у такім магутным складзе рада ТБМ ужо ніколі не выбіралася. Чаму? Гэтаму спрычыніліся важныя перамены ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Прыняцце Закона аб мовах, дэмакратычныя выбары ў Вярхоўны Савет рэспублікі, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, развал СССР, фактычная ліквідацыя камуністычнага рэжыму, рэзкае ўзмацненне працэсаў дэмакратызацыі і беларусізацыі — усё гэта адцягвала многіх выдатных дзеячаў ад ТБМ, вымушаючы іх засяродзіцца на значных і адказных участках дзяржаватворчасці (напрыклад, у пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета, у Міністэрствах і выдавецтвах, у палітычных партыях). Спадарожнічала гэтаму ўсведамленне (на жаль, заўчаснае), што наконт беларускай мовы пытанне ў прынцыпе вырашана: яна заканадаўча замацавана ў якасці дзяржаўнай і шчаслівы лёс надалей ёй забяспечаны. Змагацца за яе дзяржаўны статус ужо няма патрэбы, і Таварыства можа заняцца іншымі, больш прыватнымі праблемамі.

На устаноўчым з’ездзе, апрача статута ТБМ, былі прыняты і некаторыя іншыя дакументы, у прыватнасці “Зварот да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова”. У звароце гаварылася: *“Горача заклікаем з разуменнем і адчуваннем гістарычнай адказнасці паставіцца да катастрафічнага становішча беларускай мовы ў Беларусі — падтрымаць шматлікія прапановы грамадскасці аб неадкладным наданні ёй дзяржаўнага статуса ў рэспубліцы”.* І такі ж палымяны заклік уступаць у Таварыства, усюды ствараць яго суполкі, растлумачваць яго мэты і задачы, і вядома ж — сваім асабістым прыкладам заахвочваць, *“каб беларуская мова ў будзень і свята гучала ва ўсіх сферах нашага жыцця”.*

Як жа хацелася верыць, што гэтыя словы будуць пачутыя, што яны дойдуць да сэрцаў мільёнаў і што водгукам на іх будзе вялікае абуджэнне сумлення і волі народа – волі будаваць сваю свабодную суверэнную Бацькаўшчыну!..

**28 верасня** ТБМ як грамадская арганізацыя было зацверджана Прэзыдыумам Вярхоўнага Савета БССР (Тады была такая практыка). Не гледзячы на мой грунтоўны даклад, зацвярджэнне прайшло без аніякага энтузіязму — наадварот, з пэўнай насцярожанасцю і паблажлівасцю: маўляў, ну што ж, зацвердзім, але, але... глядзіце, каб уся праца Таварыства ішла ў рамках закона, адпавядала Канстытуцыі, не падагравала нацыяналізму.

Гэта была апошняя кропка ў працэсе афармлення арганізацыі. ТБМ тым часам разгарнула актыўную дзейнасць. У гарадах і пасёлках, пры навучальных установах і на прадпрыемствах пачалі ўзнікаць першасныя суполкі, якім належала аб’ядначца ў гарадскія і раённыя арганізацыі (пазней былі створаны і абласныя). На Радзе быў выбраны намеснік старшыні ТБМ (ім стаў настаўнік Я. Цумараў) і рабочы сакратарыят, былі зацверджаны кіраўнікі камісій. Кожная з камісій распрацавала канкрэтную праграму дзейнасці, хоць за працу далёка не ўсе з іх узяліся аднолькава энтузіястычна. Найбольш плённа з самага пачатку і ў наступныя гады працавалі камісіі: выдавецкая, тэрміналагічная, па ўдасканаленні правапісу, па сувязях з суайчыннікамі за межамі рэспублікі, па гапаніміцы. Амаль не разгарнулі працы — ні на пачатку, ні пасля — камісіі па культуры мовы, па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя, па моўных скарбах народа. Недастаткова актыўна працавала галоўная, у маім разуменні, камісія — арганізацыйна-прапагандысцкая. У выніку — толькі на палавіне тэрыторыі рэспублікі былі створаны суполкі ТБМ, ды і з тых, што меліся, многія існавалі намінальна, бо фактычна бяздзейнічалі. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што і арганізоўваць на перыферыі суполкі было неймаверна цяжка — у многіх раёнах партыйнае кіраўніцтва не толькі не спрыяла і не падтрымлівала гэты рух, але перашкаджала, не дазваляла яго разгортваць (як пазней, у 1990 — 1991, сабаціравала выкананне Закона аб мовах і распрацаванай на яго аснове Праграмы ажыццяўлення ў рэспубліцы Закона аб мовах).

Увогуле, мушу сказаць, што за гады працы ў ТБМ я пераканаўся яшчэ больш у адной сваёй даўняй думцы пра беларускую творчую інтэлігенцыю — пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў, артыстаў: у большыні сваёй – безініцыятыўныя і лянотныя ў тым, што датычыць не асабістых, а грамадскіх інтарэсаў. За трыбунай, на сходах, на з’ездах, на канферэнцыях і г. д. — гавораць голасна і нават палымяна, і крытыкуюць, і заклікаюць, і разумна разважаюць, а як дойдзе да канкрэтнай практычнай справы — дзе што дзявалася? Дзе той пафас і палымянасць, тая напорыстасць і моц духу?..

У сакавіку 1990 года пачаў выходзіць, з перыядычнасцю — адзін раз у месяц, бюлетэнь ТБМ “Наша слова”. Грошы на яго выданне вялікадушна знайшоў Савет Міністраў (дзякуючы падтрымцы намесніка старшыні СМ Н. М. Мазай і міністра культуры А. Бутэвіча). Гэта было немалое дасягненне — свой орган друку. Рэдактарам бюлетэня на першай пары быў старшыня Таварыства, “рабілі нумар” практычна Г. Тумаш, А. Траяноўскі, З. Санько, Н. Гілевіч. Сакратаром рэдакцыі і адказным за выпуск быў нястомны руплівец Генадзь Тумаш.

---

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА



БЕЛОРУССКАЯ СОВЕТСКАЯ СОЦИАЛИСТИЧЕСКАЯ РЕСПУБЛИКА

**ПОСТАНОВЛЕНИЕ**
**ПРЕЗИДИУМА ВЕРХОВНОГО СОВЕТА БССР**

О регистрации Устава Общества белорусского языка им. Франциска Скорины

Рассмотрев Устав Общества белорусского языка, принятый 27 июня 1989 года съездом общества, и заключение Юридического отдела по Уставу, Президиум Верховного Совета п о с т а н о в л я е т:

1. Управлению Делами Президиума Верховного Совета Белорусской ССР зарегистрировать Устав Общества белорусского языка им. Франциска Скорины.

2. Рекомендовать правлению Общества белорусского языка представить на рассмотрение очередного съезда абщества предложения о внесении в Устав необходимых изменений.

3. Рекомендовать исполнительным комитетам областных и Минского городского Совета народных депутатов оказывать содействие Обществу белорусского языка в организации и работе его региональных отделений.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ПРЕДИДИУМА
ВЕРХОВНОГО СОВЕТА БССР - Н. ДЕМЕНТЕЙ

СЕКРЕТАРЬ ПРЕЗИДИУМА
ВЕРХОВНОГО СОВЕТА БССР – Л. СЫРОЕГИНА

28 сентября 1989 года
гор. Минск

---

ДЗЯРЖАЎНЫ ПЛАНАВЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАЙ ССР (Дзяржплан БССР) 220010, г. Мінск, Дом Урада Тэлетайп № 300440 план, тэл. 29-68-92



ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ПЛАНОВЫЙ КОМИТЕТ БЕЛОРУССКОЙ ССР (Госплан БССР) 220010, г. Минск, Дом Правительства Телетайп № 300440 план, тел. 29-68-92

От 05.04.90 № 13/11-134
На № 04-03 от 14.02.90г.

Общество белорусского
языка им. Ф. Скорины
220034, г. Минск, ул. Фрунзе, 5

Госплан БССР устанавливает вновь созданному Обществу белорусского языка им. Франциска Скорины (постановление Президиума Верховного Совета БССР от 28.09.89 г.) фонд заработной платы на 1990 год в сумме 17 тыс. рублей.

Заместитель Председателя
Госплана БССР – Г. П. Бадей

# "ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?" па-беларуску

Пра тое, што ў апошні час расце цікавасць моладзі да беларускай мовы, загаварылі многія СМІ. Гэтыя факты тычыліся ў асноўным вынікаў папулярнасці беларускай мовы на цэнтралізаваным тэставанні. Разам з тым парасткі беларускай мовы пачынаюць прабівацца ў самых розных галінах грамадскага жыцця і сферах прымянення моладзевых зацікаўленняў. Не выключэнне і горада Ліда. Не так даўно пераканаўчую перамогу ў гульні КВЗ





атрымала каманда 15-й школы, якая стварыла сваю праграму на беларускай мове, а 27 траўня ў 17-й школе на беларускай мове адбылася інтэлектуальная гульня "Што? Дзе? Калі?". Ролю круп'е выконвала Алена Іванаўна Паварга. Гульня ішла, як і ў добрыя старыя часы, на кнігі. Кнігі былі прадстаўлены адміністрацыяй школы, Лідскай раённай арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны і грамадскай ініцыятывай "Партнёрства". Кнігі, акрамя адной, былі на беларускай мове.

У школе сфармаваныя дзве каманды: старэйшая і малодшая. Інтэлектуальныя гульні тут становяцца традыцыяй. Будзем спадзявацца, што традыцыяй стане і беларуская мова на гэтых гульнях.

*Яраслаў Грынкевіч.*

**На здымку:** падчас гульні, у цэнтры Алена Паварга.

# У РАМКАХ ТЫДНЯ СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ ПРАЙШОЎ БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

Беларускі дзень прайшоў у Даўгаўпілсе 27 траўня ў рамках Тыдня славянскай культуры.

Як паведаміла прэс-служба МЗС Беларусі, у Даўгаўпілскім універсітэце адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская пісьменнасць — гістарычныя вытокі".

Цэнтральнай падзеяй свята сталі ўрачыстасці, прысвечаныя 10-гадоваму юбілею фалькорнага ансамбля "Купалінка" Цэнтра беларускай культуры і беларускага культурна-асветнага таварыства "Уздым".

Ансамбль "Купалінка" вядомы далёка за межамі Латвіі. Сёлета калектыў запрошаны для ўдзелу ў выступленнях на гарадскіх плошчах Віцебска падчас правядзення міжнароднага фестывалю "Славянскі базар у Віцебску". Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Генадзь Ахрамовіч у якасці падарунка ўручыў прадстаўнікам гэтага творчага калектыву выробленыя ў Беларусі новыя сцэнічныя касцюмы.

На юбілейным канцэрце, што праводзіўся ў адным з найлепшых палацаў культуры Даўгаўпілса "Варпа", ансамбль "Купалінка" прыйшлі павіншаваць кіраўнікі гарадской адміністрацыі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, творчыя калектывы латвійскай і іншых нацыянальных культур.

У мерапрыемствах узялі ўдзел і выступілі з віншаваннямі надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы Вадзім Ламкоў і загадчык аддзела культуры, інфармацыі, рэлігіі і нацыянальнасцяў упраўлення сацыяльна-культурнай галіны апарату Савета міністраў Рэспублікі Беларусь Наталля Голубева.

*Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.*

## Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!

**Шаноўныя сябры!**

На пачатку падпіскі на 2-е паўгоддзе мы атрымалі чарговую неспадзяванку, па іхняму - сюрпрыз. Па, да канца так і не высветленых прычынах, нашай газеты не аказалася ў Каталогу на 2-е паўгоддзе. У выніку праведзеных перамоваў дасягнута дамова аб уключэнні "Нашага слова" ў дадатак да каталога. Электронны варыянт дадатка ўжо паступіў на ўсе паштовыя аддзяленні. Паштавікі атрымалі распараджэнне пакуль што дапісаць "Наша слова" ў каталогі. І гэта ў многіх паштовых аддзяленнях ужо зроблена. Падпісны індэкс у нас той жа самы. Цана крышку паднялася і складае зараз 1280 рублёў на месяц, 3840 рублёў на тры месяцы, 7680 рублёў на паўгода.

Шаноўныя сябры! Рэдакцыя просіць вас праявіць настойлівасць пры афармленні падпіскі. Калі ў якінебудзь каталог газета не ўнесена, патрабуйце, каб гэта было зроблена пры вас.

Рэдакцыя заплаціла за ўключэнне ў каталог каля 230 тысяч рублёў, таму ніякай ласкі ні ў кога прасіць не трэба. Трэба патрабаваць.

Мы ведаем, што нашыя чытачы людзі актыўныя і заўсёды да свайго дойдуць, таму спадзяёмся, што гэтае непаразуменне з неўключэннем у каталог не перашкодзіць вам падпісацца на "Наша слова".

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

На 2004 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Кошт: падпіскі 3840 руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў 1

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# У МАГІЛЁВЕ АДКРЫЎСЯ XII МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ "МАГУТНЫ БОЖА"

26 траўня ў Магілёве адкрыўся XII міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа".

Адкрываючы фестываль, старшыня Магілёўскага аблвыканкама Барыс Батура зазначыў, што восьужо 12 гадоў Магілёў, "з уласцівай яму гасціннасцю, прымае гасцей і ўдзельнікаў гэтага фестывалю, аднак сёлета яго геаграфія істотна пашырылася". На музычным форуме, паводле яго слоў, сабралася больш за тысячу выканаўцаў духоўнай музыкі з Расіі, Украіны, Польшчы, ЗША, Германіі і іншых краін блізкага і далёкага замежжа. У рамках фестывалю, як паведаміў Б.Батура, пройдуць конкурсы харавых калектываў і салістаў-вакалістаў, а таксама шматлікія канцэрты камерных ансамбляў, арганнай музыкі, маладзёжных эстрадных калектываў. "Тое, што месцам правядзення гэтага свята стаў менавіта Магілёў — не выпадкова, — лічыць Барыс Батура. — Наш жа абласны цэнтр мае найбагацейшую гісторыю і не менш багатыя культурныя традыцыі". Вялікі поспех у гледача, на думку кіраўніка Магілёўскага аблвыканкама, фестываль заваяваў "не толькі дзякуючы таму, што ён дорыць нам сапраўднае мастацтва, але яшчэ і таму, што з'яўляецца яскравым прыкладам згоды паміж рознымі нацыямі і рэлігійнымі канфесіямі".

Сёлета ўпершыню на адкрыцці фестывалю прысутнічаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усёй Беларусі Філарэт. Выступаючы перад удзельнікамі і гасцямі музычнага форуму, ён выказаў упэўненасць у тым, што "справы і задумы яго арганізатараў і ўдзельнікаў ставяць мэтай не толькі першынство ў майстэрстве выканання музычных твораў, але, перадусім, праслаўленне Усемагутнага Бога". "Цяперашняе духоўнае адраджэнне Айчыны і дбайная праца братоў і сясцёр нашых на ніве хрысціянскай асветы, адукацыі, навукі і культуры сапраўды з'яўляюцца цудамі нашага часу", — зазначыў уладыка Філарэт.

На адкрыцці фестывалю прысутнічалі кіраўнікі шэрагу дыпмісій, акрэдытаваных у Беларусі, у тым ліку пасол ЗША Джордж Крол, пасол Польшчы Тадэвуш Паўляк, часовы паверанны ў справах Слацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ёзаф Мацішак.

*Вольга ЛАПІКАВА, БелаПАН.*

# Падарожжа па родным краі

## ГАЛЬШАНЫ

Гальшаны – адно з самых старажытных паселішчаў Беларусі, якое знаходзіцца на поўдні ад Ашмян. Мясцовасць гэта заселена чалавекам здаўна, пра што гавораць шматлікая знаходкі каменнага веку. Край багаты на гарадзішчы і, шматлікія курганы, старажытныя могілкі.



*Гальшанскі замак у 1-й палове 17 ст. Рэканструкцыя Дз. С. Бубноўскага.*

Пад 1280 годам Гальшаны згадваюцца ў шматтомным выданні "Жывапісная Расія" пад рэдакцыяй П.П. Сямёнава. Таксама, як населены пункт, яны ўпамінаюцца ў Наўгародскім летапісе паміж 1387 і 1406 гадамі. Імя мястэчку даў сын князя Рамунта – Гольша, ад якога і пайшоў род князёў Гальшанскіх.

Гісторыя Гальшан цікавіла і цікавіць даследчыкаў. Асабліва іх гістарычна – культурная спадчына. Не адзін раз позірк археолагаў, архітэктараў, гісторыкаў і проста аматараў падаў на руіны Гальшанскага замка, на касцёл і кляштар францысканцаў, на Свята-Георгіеўскую царкву, на гандлёвыя рады і яўрэйскія дамы.

Вялікі ўклад у вывучэнне гісторыі мястэчка ўнёс гісторык і краязнавец Эдуард Корзун, які стварыў школьны гістарычна-краязнаўчы музей і напісаў кнігу "Гальшаны", што выйшла ў свет у 1987 г.

Калі вярнуцца да XУII ст., то найбольш трывалы след у гісторыі Гальшан застаўся ад Паўла Сапегі, падканцлера літоўскага і старосты ашмянскага (памёр у 1635 г.). У пачатку XУII ст. ён пабудаваў двухпавярховы цагляны замак у форме чатырохвугольніка, з вялікімі падваламі, чатырма вежамі і капліцай насупраць брамы.

Унутры будынка было многа пакояў, жылых і для прыёмаў, печкі упрыгожаны кафляй з гербамі і раслінным арнаментам. Гальшанскі замак будаваўся як жыллёвы комплекс, хаця меў і абарончае значэнне. Гэта пацвярджаюць і вежы. Абарона ў асноўным разлічвалася на выкарыстанне земляных умацаванняў – моцных валоў, ірвоў і бастыёнаў, што акалялі палац на перыметры. Планавакампазіцыйнай схемай пабудова нагадвае сучасныя ёй галандскія замкі Бэсенітэн і Клейдаель пад Антверпенам, а таксама некаторыя польскія ўмацаванні.

Палац перабудоўваўся ў XУIII – XX ст., што змяніла яго вонкавы выгляд і аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Ужо ў XУIII ст. Гальшанскі замак ад Сапегаў трапіў да іншых гаспадароў і на працягу стагоддзяў часта пераходзіў з рук у рукі. У 1880 г уладальнік замка Гарбанёў пачаў узрываць вежы і сцены, а цэглу прадаваў на пабудову карчмы. Палац, аднак, заставаўся жывым нават у пекле Вялікай Айчыннай вайны.

У сярэдзіне 50-х XX ст. Гальшанскі замак ператварыўся ў жывёлагадоўчы комплекс. У верасні 1954 г. у замку размясціўся Гальшанскі заатэхнічны тэхнікум (да 1959). Нажаль, пасля высялення тэхнікума будынак палаца быў закінуты. Замак зараз неадкладна патрабуе кансервацыі і рэстаўрацыі, але, нажаль, у нашай краіне няма грошай на такія справы.

Калі б адрэстаўравалі замкавы комплекс, то ў ім можна было размясціць музей, галярэю, нават санаторый, як калісьці ў Нясвіжскім палацы. Але гэта толькі мары. Будзем спадзявацца, што надыйдуць лепшыя часы для Чорнага замка Гальшанскага, апетага ў творах Уладзіміра Караткевіча.

Да нашых часоў захаваўся касцёл у стылі барока, які знаходзіцца ў цэнтры вёскі. У 1618 г па фундацыі Паўла Сапегі для манахаў-францысканцаў, якіх ён запрасіў сюды і заснаваў для іх кляштар, быў пабудаваны жылы корпус. У пачатку 1770-х гг. будынак разабраны амаль да падмурка і на яго месцы пабудаваны новы каталіцкі храм. Перад касцёлам у 1-й палове XIX ст. пастаўлена 2-ярусная 4-гранная брамазваніца, вырашаная ў стылі позняга класіцызму з выкарыстаннем элементаў дарычнага ордэра.



*Гальшанскі замак у 2001 г. Здымак аўтара.*

У XУII ст. будынак касцёла патрабаваў капітальнага рамонту. Гэты рамонт адбыўся ў 70-80-х гадах XУII ст. пры кіраўніцтве ксяндза М. Тонкеля. Будынак разбурылі, засталася толькі частка сцен. Пасля будынак касцёла адбудаваны, а ў 90-х гадах XУII распісаны сцены і закончана афармленне інтэр'еру. Яго выгляд захаваўся да нашага часу.

Кляштар быў зачынены пасля паўстання 1831 г., а касцёл ператвораны ў фарны. Сёння частку будынка клештара займае плябанія, у другой знаходзіцца філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.



*Касцёл франціішканцаў у Гальшанах, 2003 г. Здымак аўтара.*

Гальшанскі касцёл і кляштар францысканцаў з'яўляюцца помнікам рэспубліканскага значэння. У 1985-87, 1990 г. тут праводзіў раскопкі А. М. Кушнярэвіч. Даследаваннямі ўстаноўлена, што касцёл і кляштара будаваліся ў некалькі этапаў, кожнаму з якіх адпавядае свая тэхніка ўзвядзення падмуркаў. У адрозненні ад замка кляштар больш вывучаны. На сённяшні дзень тут вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

Яшчэ ў Гальшанах ёсць Свята-Георгіеўская царква. Пабудавана ў 1901 г. з цэглы. Царква абкружана каванай агароджай з брамай. За гады свайго існавання шмат змянілася святароў, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё і захаванне гэтага помніка. Свята-Георгіеўская царква – помнік рэтраспектыўнарускага стылю. Па сваёй архітэктуры нагадвае большасць з невялікіх праваслаўных храмаў Беларусі, але як кожны культавы будынак цікавы для вывучэння. Асабліва дзякуючы захаваным у ім рэліквіям і творам мастацтва.



*Капліца ў Гальшанах, 2002 г. Здымак аўтара.*

Трывалы след у гісторыю мястэчка ўнеслі яўрэі. Сёння яўрэяў у Гальшанах няма. Але сляды яўрэйскай культуры захаваліся ў архітэктуры, у паданнях, у непаўторным местачковым каларыце. Аб гэтым добра сведчаць экспанаты школьнага гістарычна-краязнаўчага музея.

Ужо ў 1554 г., як сведчыць пісьмовыя крыніцы, Гальшаны былі буйным рамесніцкім і гандлёвым мястэчкам. Святочна выглядала мястэчка ў дні, калі адбываліся кірмашы, іх было 5-6 на год, не лічачы штотыднёвых. Усе яны арганізоўваліся на плошчы ў цэнтры Гальшан, якая называлася – Гандлёвая.

Яўрэйскія дамы знаходзіліся на галоўных вуліцах, бліжэй да цэнтра мястэчка. Забудова выглядала багата, яна і цяпер упрыгожвае местачковыя вуліцы. Дзверы выходзілі на вуліцу, бо ў кожным доме была ці крама, ці майстэрня. Пасля аднаго пажару згарэлі дамы па вуліцы Замкавай, але яўрэі пацярпелі не надта, бо дамы былі застрахованыя. Пасля пажару яўрэі адбудавалі прыгожыя камяніцы, пакрытыя ацынкованай бляхай.

Гэтыя будынкі добра захаваліся да нашага часу, у іх зараз жывуць мясцовыя жыхары.

У XУI ст. у Гальшанах была папяровая мануфактура, уладальнікам якой быў Павел Стэфан Сапега. Папера выраблялася ў вялікай колькасці і ўжывалася на ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Як адзначаюць даследчыкі, прадукцыя гальшанскай паперыні ў пачатку XУII ст. была высокай якасці.

Яшчэ гальшанцы могуць ганарыцца і кафляй. Даследчыкамі кафлі былі беларускія вучоныя – археолагі А. К. Краўцэвіч, А.М. Кушнярэвіч, А. А. Тру-саў і І. М. Чарняўскі, якія ў 1980-я – пачатку 1990-х гадоў займаліся вывучэннем гальшанскіх замка, кляштара і мястэчка. Яны ж і зрабілі выснову, што кафля ў XУ-XIX ст. выраблялася ў Гальшанах.

Нажаль да нашага часу не захаваліся прадпрыемствы па вытворчасці кафлі і паперы, засталіся толькі ўспаміны ў кнігах і рукапісах, а таксама рэшткі кафлі і кавалкі старажытнай паперы захоўваюцца ў гальшанскіх музеях і ў іншых музеях краіны.

*Алеся Шаховіч, студэнтка БДУК.*

№ 21 (656) 2 ЧЭРВЕНЯ 2004 г. Наша слова

# РЫЦАР СУМЛЕННЯ І СВАБОДЫ

## Вечарына да 80-годдзя з дня народзінаў Васіля Быкава ў Лідскім педкаледжы

Набліжаецца 80-годдзе з дня нараджэння вылікага беларускага пісьменніка Васіля Быкава – сапраўднага ўладара дум не аднаго ўжо пакалення людзей. Кнігі Васіля Уладзіміравіча Быкава – гэта падручнікі сумлення. Кожны адчувае В. Быкава па-свойму. І кожны засвойвае ад яго нейкі свой урок. Яшчэ са



*"Магутны Божа" пры святле свечак гучыць у выкананні Мірaславы Шадурскай.*





*Прэс - канферэнцыя "Урокі Васіля Быкава".*



*Танцам са свечкамі пачынаецца вечарына да 80-годдзя Васіля Быкава.*




*У ролях Джуліі і Івана з "Альпійскай балады" Марына Грынь і Кастусь Ліцьвінскі.*



*Пра Васіля Быкава распавядае Алесь Жалкоўскі.*

школы мы вучымся па яго творах чалавечнасці, прынцыповасці, адданасці, шчырасці, бескампраміснасці; праўдзівасці, сумленнасці, цярплівасці, адказнасці, годнасці, мужнасці, любові да сваёй Айчыны...

Таму літаратурная вечарына з нагоды юбілею славутага беларуса сабрала шмат прыхільнікаў яго таленту – навучэнцаў і выкладчыкаў Лідскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа на чале з дырэктарам Наталляй Яўгенаўнай Кудзерка. Актавая зала навучальнай установы па-святочнаму прыбрана, на відным месцы-партрэт Васіля Быкава. Мерапрыемства было падрыхтавана навучэнцамі груп Д-2-А і Д-2-Б пад кіраўніцтвам выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Міхася Іванавіча Мельніка.

Сцэнар вечарыны складаўся з дзвюх частак: першая - гэта літаратурна – мастацкая кампазіцыя "Рыцар сумлення і свабоды", куды ўвайшлі танец з запаленымі свечкамі, класічная і патрыятычная музыка, у тым ліку мелодыі з балета "Альпійская балада", вершы, прысвечаныя Васілю Быкаву, літмантаж – аповяд аб жыцці і творчасці пісьменніка, інсцэніроўкі ўрыўкаў аповесцяў "Знак бяды" і "Альпійская балада", якія падрыхтавалі і выканалі ў іх адпаведныя ролі навучэнцы Вольга Кавальчук (Сцепаніда) і Яўген Місарэвіч (Пятрок), Марына Грынь (Джулія) і Кастусь Ліцьвінскі (Іван). Ролю В. Быкава ўдала выканаў навучэнец чацвёртага курса дашкольнага аддзялення Сяргей Смірноў.



*У ролі маладога Васіля Быкава Сяргей Смірноў.*



*На сцэне "Знак бяды". Вольга Кавальчук (Сцепаніда) і Яўген Місарэвіч (Пятрок).*

Другая частка праходзіла ў форме гульні пад назвай "Прэс-канферэнцыя "Урокі Васіля Быкава", на якую былі запрошаны "карэспандэнты" друку, радыё, тэлебачання і "вядомыя беларускія пісьменніцы" Ларыса Геніюш, Данута Бічэль, Святлана Алексіевіч, Вольга Іпатава, Яўгенія Янішчыц, Валянціна Коўтун, Хрысціна Лялько і іншыя. Ролю пісьменніц і прадстаўнікоў розных сродкаў масавай інфармацыі выконвалі навучэнкі педкаледжа. Цікава было паслухаць прадуманыя пытанні і адказы - развагі аб асобе В. Быкава і яго ўплыве на літаратурны лёс многіх пісьменнікаў. Усіх парадавала выступленне маладой паэтэсы, навучэнкі другога курса Таццяны Іванчык, якая прачытала два ўласныя вершы, прысвечаныя Васілю Быкаву, а таксама выказала свае думкі аб прачытаных творах любімага пісьменніка.

Акрамя гэтага, бібліятэкары педкаледжа Валянціна Аляксееўна Белавус і Марыя Іпалітаўна Алюк падрыхтавалі багатую выставу кніг і матэрыялаў перыядычных выданняў, прысвечаных жыццю і творчасці Васіля Быкава.



*Прызы пераможцам віктарыны да 80-годдзя Васіля Быкава ўручае старшыня Лідскай раённай арганізацыі ТБМ Лявон Анацка.*

Перад прысутнымі выступіў старэйшы журналіст Ліды, былы рэдактар "Лідскай газеты" Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. Які падзяліўся ўспамінамі аб сустрэчах з Васілём Быкавым. З яго слоў мы даведаліся аб сапраўднай чалавечнасці, прынцыповасці, мудрасці славутага ва ўсім свеце майстра слова.

Старшыні гарадской і раённай арганізацый Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Станіслаў Суднік (сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі) і Лявон Анацка ўручылі памятныя падарункі навучэнкам Алене Мілевіч, Вользе Кавальчук і Вользе Новік, якія сталі пераможцамі віктарыны аб жыццёвым і творчым шляху В. Быкава.

Неабходна адзначыць, што нашы навучэнцы таксама праявілі актыўнасць і зацікаўленасць у конкурсе на лепшую ілюстрацыю да твораў Васіля Быкава. Таму на адпаведнай выставе дэманстравалася вялікая колькасць творчых работ.

Першае месца за лепшую ілюстрацыюбыло прысуджана Надзеі Сцефановіч і Алесі Каськовай. Яны таксама атрымалі ўзагароды ад ТБМ і студэнцкага прафкаму.

Літаратурная вечарына ў педкаледжы прайшла на высокім мастацкім і метадычным узроўні, што сведчыць аб шчырай павазе нашых педагогаў і навучэнцаў да асобы Васіля Быкава, які з'яўляецца гонарам і славай беларускага народа.

*Алена Налівайка, навучэнка Лідскага педкаледжа.*





# ТЫ БУДЗЕШ ЗВІНЕЦЬ, МАЯ РОДНАЯ МОВА!

## *Сцэнары школьных святаў*

Зборнік **"Ты будзеш звінець, мая родная мова!"** складзены, дзякуючы намаганням сяброў Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы" Лідскага раёна і г. Ліда. У зборнік ўвайшлі сцэнары школьных святаў.

Яго складальнікі (А. Крупа, М. Сяўко, Т. Завала, Т. Пышко і інш.) стаяць на пазіцыях садзейнічання стварэнню сістэмы нацыянальнай асветы і адукацыі, спрыяння развіццю адукацыі і выхавання на беларускай мове, праводзяць культурна-асветніцкую працу сярод дзяцей, моладзі і дарослых, дзеля фармавання ў іх нацыянальнай свядомасці і засвоення імі агульначалавечых каштоўнасцяў.

Не сакрэт, што часта класныя кіраўнікі і выхавальнікі адчуваюць цяжкасці пры падрыхтоўцы святаў на беларускай мове. Прычына таму: недастатковая забяспечанасць распрацоўкамі выхаваўчых мерапрыемстваў школ і дашкольных устаноў.

І многія настаўнікі ідуць па шляху найменшага супраціву: выкарыстоўваюць рускамоўныя распрацоўкі, якіх шмат у школах.

Фармаваць захапленне народнай творчасцю, любоў да роднай мовы, пашыраць сферу выкарыстання беларускай мовы, дабівацца яе прыярытэту ў дзяржаўным і грамадскім жыцці – такія задачы ставяць перад сабой складальнікі зборніка.

Зборнік можа быць рэкамендаваны класным кіраўнікам і настаўнікам, выхавальнікам агульнаадукацыйных школ, сярэдніх і спецыяльных навучальных устаноў у якасці дапаможніка пры падрыхтоўцы да школьных свят.

Нажаль, Лідская раённая арганізацыя ТБШ не знайшла пакуль што грошай на выданне зборніка, і кіраўнік аўтарскага калектыву і старшыня Лідскага ТБШ **Анатоль Крупа** прапанаваў зборнік рэдакцыі "Нашага слова". Мы вырашылі пачаць друк са сцэнарыя пачатку навучальнага года і пачаць гэты друк цяпер, каб да 1-га верасня асноўная частка сцэнараў ужо была даступнай для настаўнікаў і выхавальнікаў.

З заўвагамі і прапановамі просім звяртацца па адрасу: 231302 Гродзенская вобласць, Лідскі раён, в. Бердаўка, вул. Школьная,1; тэл.: 98-4-98. або ў рэдакцыю "Нашага слова".

## Свята першага званка

**1 вяд.**

*О, час канікулаў вясёлых,*

*о, хуткатлумны лета час,*
***бывай, бывай.***
*Дзень добры, школа!*
*Ці ты пазнала сёння нас?*

**2 вяд.**

*Мы ўсе за лета загарэлі,*
*і трохі нават падраслі,*
*штодня марожанае елі*
*і дзе мы толькі не былі:*
*і забаўлялі нас арэлі,*
*і выпрабоўвалі палі.*

**1 вяд.**

*Нас сонца раненька будзіла,*
*з сабою дзень працоўны браў,*
*нам у сваёй старонцы мілай*
*хапае ўсім цікавых спраў.*

**2 вяд.**

*Пара канікулаў вясёлых*
*прайшла імкліва,*
*і цяпер*
*сябры сышліся,*
*зноўку, школа,*
*вітаем родная цябе!*

**1 вяд.**

Добры дзень, паважаныя настаўнікі, бацькі, вучні, госці. Вось і перагарнула лета сваю апошнюю старонку, а разам з ёй скончыліся і вясёлыя канікулы з гульнямі, падарожжамі, цікавымі сустрэчамі.

**2 вяд.**

І сёння, у гэты першы вераснёўскі дзень мы ўсе сабраліся тут з нагоды цудоўнага свята Дня Ведаў.

**1 вяд.**

*Заціх у лузе звон пчаліны,*
*замоўк у лесе шум птушыны –*
*мінула летняя пара.*

**2 вяд.**

*І першым ранкам вераснёвым*
*спяшаецца з настроем новым*
*у Краіну Ведаў дзетвара.*

**1 вяд.**

*Настрой ва ўсіх цудоўны гэткі:*
*у руках дзяцей жывыя кветкі,*
*усмешак промні ў вачах.*

**2 вяд.**

*Сышліся класныя сямейкі*
*на ўрачыстую лінейку,*

*званочак весела гучыць.*

**1 вяд.**

*Краіна ведаў, адчыняйся,*
*ніколі, шчасце, не канчайся –*
*вучыцца шчасце і вучыць.*

**2 вяд.**

Кожны год школьная сям'я папаўняецца новымі вучнямі – шасцігодкамі, якія з сёняшняга дня пачнуць цікавае падарожжа па Краіне Ведаў.

**1 вяд.**

Запрашаем на свята першага званка самых маленькіх вучняў нашай школы. *(Пад музыку выходзяць шасцігодкі).*

**2 вяд.**

Першыя парады ў новым навучальным годзе дае **дырэктар школы**.

. . .

**1 вяд.**

Ох, і хваляваліся нашыя шасцігодкі, збіраючыся ў школу...

**2 вяд.**

Форму некалькі разоў прымяралі, перад люстэркам красаваліся, падручнікі з сшыткамі складвалі ў ранец, марылі аб дзесятках...

*Так, так, сапраўды, я ведаю...*
*Раз суседскую дзяўчынку*
*Я сустрэў на школьным рынку.*
*З мамай хмурая стаяла,*
*Коскі тузала, маўчала.*
*Мама ж, стомленная досыць,*
*Ёй выказвала ў журбе:*
*- Дзе цябе, дачушка, носіць?!*
*Зачакалася цябе.*
*Форму, глянь, ужо купіла.*
*На мяне ж ты - як забыла...*
*І азвалася дзяўчынка,*
*Банты – пырх! – як матылькі:*
*- Я хадзіла, мам, па рынку,*
*Абышла ўсе латкі...*
*Што за рынак?*
*Дзе іх дзеці?*
*Дзе ў чаргу за імі стаць?*
*Ёсць і кніжкі, і партфелі,*
*А дзесятак не відаць.*

**1 вяд.**

А вось мы зараз і праверым, ці гатовы вы да вучобы, ці сапраўднымі будуць вашы дзесяткі?

**2 вяд.**

Прачытайце, калі ласка, што тут напісана. *(На аркушах напісаны словы:* ***мама, школа, Радзіма*** *і інш.).*

Чытаць вы ўмееце, а лічбы ці ведаеце? Вось, напрыклад, якія гэта лічбы? Якая з іх самая лепшая, а якая самая горшая?

... Малайцы. А зараз паглядзім якія вы кемлівыя. Адгадайце загадку:

*На паліцах узжоўж сцен*
*Стаяць, чакаюць нас яны.*
*Хто з імі размаўляе,*
*Той многа-многа знае.* ***(Кніга.)***

**1 вяд.**

А можа вы яшчэ і вершы чытаць умееце?

. . .

**2 вяд.**

Вельмі добра. А зараз усе давайце вырашым: ці прымаем мы шасцігодак у сваю дружную школьную сям'ю?

**1 вяд.**

Віншуем вас – з гэтага часу вы вучні ... школы.

**2 вяд.**

*Цішыня на ўроку.*
*Дзеці з самай раніцы*

*Ловяць пільным зрокам*
*Кожны рух настаўніцы.*
*Вырастуць не хісткімі,*
*А пакуль схіляюцца*
*Над сваімі сшыткамі,*
*У літары ўглядаюцца.*

**1 вяд.**

*Быццам сачыненне*
*Пішуць першакласнікі –*
*Будучыя геніі,*
*Будучыя класікі.*
*Мякка льецца голас*
*Першай іх настаўніцы.*
*З вокнаў роднай школы*
*Свет вялікі ўбачыцца.*

**2 вяд.**

Першыя словы віншавання гучаць з вуснаў першай настаўніцы.

. . .

**1 вяд.**

А зараз вас віншуюць бацькі, для якіх таксама з сённяшняга дня пачынаецца школьнае жыццё.

. . .

**2 вяд.**

А зараз слова для віншавання даецца гасцям.

. . .

**1 вяд.**

Са словамі наказу для самых маленькіх вучняў нашай школы звяртаюцца будучыя выпускнікі:

*1. Дарагія нашы маленькія сябры! Ад імя вучняў-старшакласнікаў я віншую вас з пачаткам вучобы ў школе. Няхай школа стане для вас другім домам, хай вучоба прыносіць вам задавальненне, хай у вашых сшытках будуць толькі добрыя і выдатныя адзнакі.*

*2. Ёсць дарог заўсёды*
*шмат*
*Ад парогаў нашых хат.*
*І ў цябе дарога ёсць,*
*Ты на ёй ужо не госць.*
*Кожнай раніцы на золку*
*Пабяжыш па ёй у школку.*

**2 вяд.**

*Звіні, званок!*
*І абвяшчай пачатак года,*
*Будзь святам ты для нас,*
*Для школьнага народа.*

**1 вяд.**

Увага! Слухаем першы школьны званок новага навучальнага года.

**2 вяд.**

Яго даюць вучань 11 класа і вучаніца падрыхтоўчага класа

...

**1 вяд.**

Вось і адкрыта яшчэ адна старонка нашай школьнай біяграфіі. Пачата дарога ў Краіну Ведаў.

**2 вяд.**

*У жыцці кожнага з нас*
*Бывае свой першы,*
*свой памятны клас.*
*І першы залівісты школьны званок,*
*І першы ўрок.*

**1 вяд.**

Мы запрашаем усіх на першы ўрок у гэтым навучальным годзе.

**2 вяд.**

Першымі ў школу запрашаюцца самыя маленькія школьнікі-вучні падрыхтоўчага класа.

## Свята першага верасня

**1 вяд.**

Добры дзень, паважаныя госці, бацькі, настаўнікі, вучні!

**2 вяд.**

Са святам 1 верасня, Днём ведаў! *(Песня.)*

**1 вяд.**

*Вецер шастае наўкола,*
*Спеў заводзіць у бары.*
*Зазвініць святочна школа*
*Галасамі дзетвары..*

**2 вяд.**

*Адпачылі мы на славу;*
*Шчасным быў наш летні час:*
*І на рэчкі, і ў дуброву*
*Вандравалі мы не раз.*

**1 вяд.**

*Сёння ранак ціхі, ясны,*
*Свежасць ён нясе палям.*

*Сёння першы дзень вучобы,*
*Час ісці ў школу нам.*

**2 вяд.**

*Раніцою залацістай*
*У клас мы радасна ідзём.*
*Там утульна, светла, чыста,*
*Школа – наш любімы дом.*

**1 вяд.**

Сёння для нашай школы радасны дзень яшчэ і таму, што мы прымаем сваё папаўненне – першакласнікаў.

**2 вяд.**

А для іх гэты дзень будзе поўны нечаканасцяў і адкрыццяў. Давайце запросім іх на лінейку. *(Пад музыку ўваходзяць дзеці.)*

**1 вяд.**

*Злятаюць з дрэў наўкола*
*Лісты, лісты, лісты.*
*Ідзём сягоння ў школу*
*І я, і ён, і ты.*

**2 вяд.**

*Вам школа ранкам сонечным*
*Свае адкрыла дзверы.*
*Вы школьнікі, вы школьнікі,*
*Школьнікі цяпер вы.*

**1 вяд.**

Слова для віншаванны даецца дырэктару школы.

. . .

**2 вяд.**

А зараз, паважаныя першакласнікі, адкажыце нам, як завуць вашу першую настаўніцу?

**1 вяд.**

*Запомні, дружа:*
*Яна – твой першы капітан,*
*Адважна адплываеш:*
*То Волга-Дон, то акіян*
*Ты з ёю адкрываеш.*

**2 вяд.**

*Яна – твой казачнік, паэт.*
*І ты, як быццам першы,*
*Уваходзіш у прасторны свет*
*І прыказак, і вершаў.*

**1 вяд.**

*А лічбы пад яе рукой*
*Разумныя, жывыя!*
*Яны становяцца чаргой,*
*Нібыта вартавыя!*

**2 вяд.**

*І любіш ты, як ён, як я,*
*З адданасцю дзіцяці -*
*Яна – настаўніца твая,*
*Твая другая маці.*

**1 вяд.**

Слова для віншавання даецца першай настаўніцы нашых першакласнікаў. *(Песня.)*

**2 вяд.**

А зараз першакласнікаў павіншуюць бацькі.

**1 вяд.**

Слова для віншавання даецца гасцям:

- ..................
- ..................
- ..................

**2 вяд.**

*У верасні, у верасні*
*Хапае ўсім турбот:*
*Дзятва да школы ў верасні*
*Спяшаецца штогод.*

**1 вяд.**

*Ці свеціць сонца з раніцы,*
*Ці ў хмарках промень згас –*
*Хто ў першы клас спяшаецца,*
*А хто ў апошні клас.*
*("Востраў дзяцінства")*

**2 вяд.**

Сапраўды, сярод нас сёння ёсць тыя, хто ў апошні раз прыйшоў на вераснёўскую школьную лінейку – адзінаццацікласнікі. Напэўна, маючы за плячыма 11 год школьнага жыцця, ім ёсць што сказаць нашам малечам. Паслухаем? *(Уручэнне падарункаў.)*

**1 вяд.**

*Адцвіў палетак:*
*Асенні час.*
*І сцежка дзетак*
*Зноў кліча ў клас.*

**2 вяд.**

*Збірайце кніжкі, што ёсць у вас,*
*Лінейкі, сшыткі ды ў добры час.*
*Ды зноў за парты чытаць, пісаць,*
*Вучыцца ўпарта ды веды браць.*

**1 вяд.**

Увага! Слухаем першы школьны званок! Яго дадуць вучань 11 класа ... і вучаніца 1 класа...

**2 вяд.**

Усе запрашаюцца на першы урок. Права зайсці ў школу першымі даецца першакласнікам і адзінаццацікласнікам.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Беларускія шахматныя кампазітары

АФАНАССЕЎ Георгі Васільевіч. Нарадзіўся 27 лістапада (10 снежня па старому стылю) 1909 года, г. Масква – памёр 26 сакавіка 1971 года, г. Жодзіна, беларус, тэхнік-будаўнік.

Першыя эцюды пачаў публікаваць у 1927 годзе.

У 1941-45 гг. удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Інжынер-маёр.

Пасля вайны і выхада ў адстаўку жыццё і творчасць прадоўжыў у Беларусі: з 1948 года ў Оршы, а з 1952 года ў Жодзіна.

Адыграў вялікую ролю ў станаўленні, развіцці шахматнага эцюда ў рэспубліцы. Да 1964 г. ім было апублікавана каля 50 эцюдаў. З 1964 г. пачаўся новы этап: у творчай садружнасці са сваім вучнем Я. Дзвізавым было апублікавана больш 75 эцюдаў у розных выданнях у СССР, Беларусі, Англіі, США, Германіі, Галандыі, Італіі, Польшы, Фінляндыі, Францыі, Швейцарыі, Югаславіі.



Г. Афанассеў паспяхова ўдзельнічаў у складзе зборнай каманды рэспублікі ў камандных чэмпіянатах СССР па шахматнай кампазіцыі:

- 2 месца ІУ (1963-64 гг);
- 4 месца на дошцы эцюдаў – У (1965-67 гг.);
- 1 месца УІ (1968 - 69 гг.)
- 1 месцаУІІ (1970-71 гг.), 1 месца ў раздзеле эцюдаў, 2.4 месца на дошцы эцюдаў.
- 3 месца на дошцы эцюдаў у сааўтарстве з Г. Шмуленсонам – ІХ (1975-76 гг.)

Усяго Г. Афанассевым апублікавана каля 120 эцюдаў (~75 у сааўтарстве з Я. Дзвізавым). Прызамі, ганаровымі, пахвальнымі водгукамі адзначана 25. Многія эцюды ўвайшлі ў кнігі і зборнікі лепшых кампазіцый свету.

**1. 1927**



**Выйгрыш**

**2. 1928**



**Нічыя.**

**3. 1948**



**Нічыя.**

**Рашэнні эцюдаў:**

1. Г. АФАНАССЕЎ. "64" (Масква) 1927. 2 ганаровы водгук.

1. Kpg3! Kpg1. 2.Л:f2 h1Ф (2. ... h1K+. 3. Kpf3 K: f2. 4. e5 Kh3. 5. Kpg4 Kf2+. 6.Kpf5 +- выйгрыш.) 3. Cd4! Ф:e4. 4.Лe2+ Ф:d4. 5. Лe1x, 3. ... cd 4. Лa2! + - выйгрыш.

2. Г.АФАНАССЕЎ. "64" (Масква) 1928. 3 ганаровы водгук.

1.Kpe4! h2 (чорныя адмаўляюцца ад "вілкі": 1. ... Kd6+. 2.Kpf3 h2 . 3. Лh8+ = нічыя) 2.Kpf4! g2 (2. ... h1Ф 3. Лh8+ =). 3. Л h 8 + Kpg6. 4.Л:h2 g1Ф 5. Лg2+ ! Ф:g2 = пат. Мініяцюра.

3.Г. АФАНАССЕЎ. Конкурс Усесаюзнага камітэта па фізічнай культуры і спорту. Масква, 1948. Пахвальны водгук.

1. g7 Kd7. 2. g8Ф c1Ф. 3.С:d5+ Фc4! (чорныя выкарыстоўваюць "перакрыжаванне звязак") 4. Kpa7! (развязванне) С:d5/ 5. Ф:d5! (ідэйны ход, які вядзе да мэты карацейшым шляхам). Ф:d5 = пат.

# У ГОМЕЛІ АДКРЫТЫ ПОМНІК ТАРАСУ ШАЎЧЭНКУ

25 траўня ў Гомелі адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Тарасу Шаўчэнку. Ён размешчаны ў скверы, які таксама названы ў гонар славутага кабзара. Помнік уяўляе сабой бронзавы бюст на гранітным пастаменце. Як паведамілі ў прэс-службе Гомельскага аблвыканкама, бюст быў адліты ва Украіне і перададзены гамяльчанам для ўстаноўкі.

У цырымоніі адкрыцця помніка 25 траўня ўзялі ўдзел кіраўнікі Гомельскай гарадской і абласной адміністрацый, пасол па асаблівых даручэннях МЗС Беларусі Мікалай Вайцянкоў, надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны ў Беларусі Пётр Шапавал, а таксама кіраўніцтва Кіеўскай гарадской адміністрацыі.

"Сёння надзвычай прэстыжна адчуваць сябе ўкраінцам і земляком славутага кабзара, — заявіў падчас цырымоніі адкрыцця помніка П.Шапавал. — Памятныя знакі Т.Шаўчэнкі можна знайсці ў розных краінах свету. У 2004 годзе мы адзначаем адразу дзве юбілейныя даты — 190-годдзе з дня нараджэння выдатнага дзеяча культуры Украіны і 175-годдзе з часу яго наведвання гомельскай зямлі. Вядома, што ён праездам пабываў у Лоеве, Рэчыцы і Жлобіне".

П. Шапавал таксама паведаміў, што помнікі Т.Шаўчэнку ўжо ўстаноўлены ў Менску і Берасці. На думку ўкраінскага дыпламата, падобныя акцыі садзейнічаюць умацаванню ўкраінска-беларускай дружбы і развіццю ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

*Алена ПАСКАННАЯ, БелаПАН.*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакладзіце на беларускую мову*

*Склаў Іван Курбека*




**Па гарызанталі:** 3.Большинство. 6.Красный угол. 7.Шурин. 11.Трость. 12.Пляска. 13.Ломоть. 16.Рубль. 17.Гусинный жир. 18.Власть. 19.Запруда. 20.Толстый сук. 22.Корзина. 25.Подсчёт. 26.Рулон, штука. 30.Тараторка, стрекотун. 32.Сугроб. 33.Голубика. 34.Година. 35.Щука. 36.Затейница.

**Па вертыкалі:** 1.Площадка. 2.Порча. 4.Драка. 5.Ресница. 8.Посланец. 9.Бедняга. 10.Горбушка. 14.Проклятие. 15.Беспокойство. 21.Цепь. 23.Иней. 24.Заводь. 27.Солонка. 28.Свекольник. 29.Лакей. 31.Выпь.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 31. 05. 2004 г. Замова № 1205.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 4500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)